# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 20 Пятніца, 3-га жніўня 1923 г. Год I.

## Становішча сучаснай Польшчы.

Да хьена-пястоўскага ўраду заграчная палітыка Польшчы кіравалася да тэй мэты, каб утрымаць саюз з Францыяй, будучы ў згодзе з Чэхаславаччынай, якая служыла ў гэтым выпадку як-бы мостам паміж Польшчай і Францыяй, паміж гэтымі дзьвюма дзяржавамі, якія маюць на воку непаслухмяную і бунтарскую Нямеччыну. Але ў апошнія часы, дзякуючы няўдалай палітыцы міністра заграчных спраў Сэйды, Чэхаславаччына адаляецца штораз больш ад Польшчы і хоча дружыць з Нямеччынай. Слабасьць Нямеччыны ёсьць моц Польшчы. Аканчальна зруйнованы эканамічна і прыгнечаны палітычна немцы да гэтага часу шукалі саюзніка ў савецкіх фэдэрацыях і бальтыцкія дзяржавы ў гэтым выпадку служылі як-бы пантонным мостам. Але з узростам работніцкага руху ў Нямеччыне, які можа прывясьці да дыктатуры пролетарыяту, гэты пантонны мост перабудоваваецца ў каменны. Палітычная моц Нямеччыны ўзрастае. Нават Францыя шукае згоды з немцамі праз Сінайскую конфэрэнцыю і тое цікава, што памірыць іх бярэцца вядомы чэскі палітык Бэнэш.

Такім парадкам Польшча апынулася ў даволі прыкрым адзіноцтве—кругом яе абмяжоўваюць адкрыта, ці скрыта, варожыя дзяржавы.

Гэткае несамавітае міжнароднае становішча Польшчы. Унутры, гэтай апанаванай панамі дзяржавы, дзеецца бадай яшчэ горш. Апрача кругом варожых да Польшчы меж, аблягае яе яшчэ шырокі пояс нацыянальных меншасьцяў, якія, дзякуючы пяпярэднім рэпрэсыям і падторкнутай у апошнія часы хьена - пястаўскай хвігай прадстаўніком нацыянальных меншасьцяў (напр. школьнае пытаньне), сталі орыентавацца больш на сябе, сталі шукаць падтрыманьня і прыхільнасьці сярод не так званай польскай большасьці, а сярод сялянска - работніцкіх мас, аб'яднаўшыся з якімі, твораць адзін лягер опозыцыі. Адносіны гэтых нацыянальных меншасьцяў да Польшчы дужа напамінаюць адносіны, ну хоць-бы, палякоў, чэхаў і іншых да Аўстрыі перад яе распадам на нацыянальнасьці.

Польшча—дзяржава сельска-гаспадарчая, але ў Польшчы дужа дрэнна пастаўлена зямельная справа, дрэнна дзеля таго, што яна зусім не здаволіла патрэб і інтарэсаў сялянства, тых хто на ёй працуець. Зямельная справа, падаткі і іншае стварае незадаваленьне сярод шырокіх мас, але гэтае незадаваленьне *цярпімае*, яго могуць пераносіць гадамі.

Шмат горш стаіць справа з польскай валютай. Польскі злоты, што праўда, стаіць „добра", павышаецца, ўжо ацэніваецца аж 25000 польскіх марак, затое апошняя непаўстрымана ляціць уніз; даляр падскочыўшы вышэй двухсот тысячаў [тых-жа марак. Словам, павышаюцца, падаюць, падскакваюць і гэтая вясёласьць, крутуха польскай валюты не на дабро варожыць і ствараець сярод яшчэ шырэйшых мас *вострае* незадаваленьне. Дарагоўля ў выперадкі з даляраў павышаецца, на таварным рынку паніка. Прадпрыемцы выкарыстоўваюць сытуацыю і ў мутнай вадзе рыбку ловяць, фабрыканты правакацыйна хаваюцца ў адносінах да работнікаў. Цяжкі эканамічны стан прымушае рабочых да рашучай клясавай барацьбы. Рабочыя, вызваляючыся ад уплываў згоднікаў, выраўніваюць пролетарскі фронт. Першая хваля забастовак пракацілася па ўсёй Польшчы; за ёй пойдзе другая, больш дружная. У Лодзі, Чэнстахове ўжо праліліся работніцкая кроў... Ужо плялі ў нас плёткі, быццам работнікі ў Лодзі захапілі ўладу ў свае рукі.

Выразьней выдзяляецца падзел на два лягеры—сапраўдны правы і сапраўдны левы, і абодва рыхтуюцца да бою. Але сярод правых трывога. Вельмі ўжо пагражаючае суседзтва савецкіх рэспублік і рэволюцыйнай Нямеччыны. А на войска таксама няма вялікіх надзей. Там зусім адкрыта змагаюцца пілсудчыкі з эндэкамі і няма тэй суцэльнай вайсковасьці, адналітасьці. Барацьба гэтая да таго грозная для супакою Польшчы, што нават некаторыя эндэцкія газэты трубілі аб нейкім загаворы супроць цяперашняга ўраду.

Сучаснае становішча Польшчы даволі дрэннае. Плывець яна па бурлівым моры захоўня - эўрапэйскага палітыканства, плывець бязь руля і бяз ветразя.

— Państwo (дзяржаву) djabli biorą, — сказаў старшыня міністраў пан Вітас.

**Р. Юргілевіч.**

***Пролетары, ня маюць чаго згубіць, апрача сваіх ланцугоў, а здабыць могуць увесь сьвет.***

*К. Маркс і Ф. Энгэльс.*

## Няма праступнасьці.

Нічуць не пазваляючы сабе крытыкаваць акт конфіскаты № 17 нашай газэты, ня можам ня выявіць з гэтай прычыны нашага шчырага зьдзіўленьня.

Мы глыбока пераконаны, што тут мела месца непаразуменьне, выклікание залішняй падазронасьцю ўладаў, магчыма, скрытай сьвядомасьцю сваей вінаватасьці перад беларускім народам, і дужа мала маючым падстаў у самым зьмесьце імкрымінуемага артыкулу.

Запраўды, — прыпомнім у скарочаньні запраўдны зьмест і сэнс артыкулу, які зьявіўся прычынай конфіскаты і пацягненьня рэдактара пад суд па 129 ст.К.К.

Вось у скарочаньні ход разважаньняў аўтора.

Жывое цела адзінага беларускага народу разрэзана папалам Рыскім Трактатам, але ад сьвядомасьці свайго адзінства і ад ідэальнай мэты аб'яднаньня абедзьвюх палавін, таксама як і ад ідэалу дзяржаўнай самадзейнасьці беларускі народ у асобе сваей інтэлігэнцыі адмовіцца ня можа.

Але дзеля таго, што Заходняя частка Беларусі, відавочна, **неазначана доўгі час** будзе знаходзіцца ў Польшчы, дык гэтае заданьне — аб'яднаньне абедзьвюх палавін, зьдзейсьненьне гэтага ідэалу незалежнасьці адкладаецца надоўга...

Высоўваецца другое бліжэйшае заданьне, ад якога адмовіцца нельга, бо тут — пагроза самому істнаваньню беларускага народу, як нацыянальнасьці.

Самы лёяльны грамадзянін — інародзец можа захаваць у душы ідэал незалежнасьці, як рабілі гэта самі палякі ўва ўсіх трох заборах... Ні адзін кодэкс у сьвеце не карае за гэта. У артыкуле калі й быў які-небудзь заклік, дык якраз заклік да асьведамлёнага і апраўданага актыўнага змаганьня за нацыянальнае самазахаваньне... Якраз наадварот — у артыкуле быў заклік, калі не прымірыцца з сумнай, з пункту гледжаньня ідэалу, запраўднасьцю, дык **палітычна-рэальна лічыцца з апошняй...**

Але, магчыма, артыкул рэкамэндаваў беларускаму грамадзянству якія-небудзь недазволеныя законам мэтады барацьбы за сваё самазахаваньне?

Якраз — наадварот!

Дзеля змаганьня з тымі зусім неправамернымі з пункту гледжаньня падстаў прававога гаспадарства і прынцыпаў дэмакратызму, знаходзячыміся ў супярэчнасьці з уласнай Констытуцыяй Польскай Рэспублікі мэтадамі ўрадаваньня, якія часта польская ўлада ў краі стасуе да беларускага народу, мэтадамі, маючымі яўную і адкрыта пастаўленую мэту дэнацыяналізацыі апошняга, — артыкул рэкамэндаваў беларусам **тольні і выключна легальныя мэтады, выпрацаваныя культурна-людзкім сужыцьцем**, у магутнасьці якіх, для захаваньня нацыянальнага вобліку і нацыянальнага адзінства, лепш за ўсіх пераканалася само польскае грамадзянства на сваім векавым досьледзе..

Проціў мэтадаў разьяднаньня, мэтадаў вівісэкцыі, г. ё. разсячэньня жывога нацыянальнага цэлага ў любым даным пункце народнага цела Заходняй Беларусі, мэтадаў, магчыма, фатальна прадрашоных „хірургічным" прынцыпам Рыскага Трактату, беларускаму грамадзянству рэкамэндаваліся **тольні мэтады аб'яднаньня, мэтады захаваньня жыцьця** — ў кожным даным пункце адышоўшай да Польшчы палавіны — ідэальна, нацыянальна — над-географічна, над-палітычна — адзінага цэлага Беларускага Народу!...

Няўжо-ж польскае грамадзянства ўжо забыла аб гэтай магчымасьці такога над-палітычнага, мэтафізычнага нацыянальнага адзінства, ў якім яно жыло **і захавала агульна-нацыянальнае жыцьце у працягу 150 гадоў!?**

Няўжо-ж польскае грамадзянства забыла аб магутнасьці ўсіх тых тых мэтадаў культурна-нацыянальнай лучнасьці, і тое, што захавала яму гэтае жыцьцё і гэтае адзінства ў чужых заборах, цяпер, зьдзейсьніўшы свой нацыянальны ідэал, праз вусны сваей незалежнай дзяржаўнай улады пічыць праступным для тых, хто апынуўся ў ягоным польскім заборы?!

Але-ж пэўна ні адзін судзьдзя ў Польшчы, нават тут на „Крэсах", дзе суд некаторымі прызываецца іграць палітычную ролю, ня стане на пункт гледжаньня ўлады, за гэтае конфіскаваўшай нумар нашай газэты.

Але магчыма, што гэтыя абвінавачаньні па адрэсе польскага грамадзянства і польскай улады ў Беларусі ня маюць падставаў і да беларусаў і грамадзянства і ўлада адносяцца так, як гэта напісана ў тым „Катэхізьме харошага дэмакратычнага тону", які завецца Польскай Констытуцыяй...

Думаю, што гэтага ня стане цьвярдзіць нават самы нясуменны з прадстаўнікоў і грамадзянства і ўлады... На тое, каб прызнацца ў праціўным, хваціць шчырасьці бадай у кожнага з іх...

Мы добра памятаем тую „праграму" **поўнага зьнішташэньня** Беларусі як такое, як нацыянальнае адзінкі, якую разьвіў на шпальтах мясцовага „Słowa" п. Уладыслаў Студніцкі... Ён прапанаваў там такія „турэцкія" мэтады барацьбы з мірным беларускім народам, нацыянальнае жыцьцё якога, як быццам, забясьпечана ўнутранымі і міжнароднымі абавязкамі Польскай Дзяржавы, якія павінны-ж мець якую-небудзь сілу і значэньне для Польскай Дзяржавы.

І гэты нумар „Słowa" конфіскованы ня быў.. Гэта з боку польскага грамадзянства.

Але гэта-б яшчэ нічога: ў кожным культурным грамадзянстве магчымы гэткія атавізмы людаедзтва. Шмат горш тое, што гэтая „турэцкая" праграма п. Студніцкага плянова да гэтага часу выпаўнялася тут польскай уладай... Не заходзячы далёка ў сумную для нас гісторыю, назавём апошняе праяўленьне гэтай палітыкі: задуманы разгром галоўнага „гнязда" беларускіх культурна-нацыянальных установаў у будынку быўш. Літоўскай Сэмінарыі...

Усё гэта паказвае на тое, што калі і былі якія-небудзь выразы ў інкрымінуемым артыкуле, дык яны з надбаўкай тлумачацца тым **растрывожаным да апошняй крайнасьці інстынктам самазахаваньня**, той пагрозай самай магчымасьці захаваньня нацыянальнага жыцьця, якая павінна-ж выклікаць проціў сябе элемэнтарную біолёгічную рэакцыю... Толькі да гэтай элемэнтарнай, неабходнай, здаровай рэакцыі і заклікаў артыкул беларускае грамадзянства, рэкамэндуючы, паўтараем, толькі легальныя, чыста культурна-грамадз-

на злучанай партыі соцыялістычнай. У склад кабінэту ня ўвойдуць крайнія правыя-нацыяналісты і крайнія левыя-камуністы.

Парлямэнт Рэспублікі склікаецца на 8-га жніўня.

„Der Morgen“ паведамляе, што каля Потсдаму ў суботу сабраўся на рынку вялікі натаўп людзей, які дамагаўся, каб урад энэргічна выступіў проціў дарагоўлі. У лучнасьці з гэтай дэмонстрацыяй дайшло да забурэньняў, у часе якіх разграблена шмат склепаў з правізіяй. Пасьля сабраньня, арганізованага камуністычнай партыяй, натоўп з 5.000 асоб сабраўся перад вастрогам, дамагаючыся звальненьня палітычных арыштованых. Вастрожная варта замкнула браму і выклікала паліцыю. Дайшло да паважных спатычак. Натаўп прабаваў штурмаваць вастрог. Паліцыя пачала страляць. Дзьве асобы забіты, а 7 цяжка паранена, шмат асоб лёгка паранена, 15 чалавек арыштована. Пасьля маніфэстацыі дэмонстранты сіліліся дастацца да готэлю, дзе адбываліся нарады земляўласьнікаў, думаючы, што там адбываецца сабраньне фашыстаў. Паліцыя разагнала дэмонстрантаў.

У Бэрліне на мітынгах прамоўцы-камуністы жадалі адстаўкі Куно і ўвядзеньня дыктатуры пролетарыяту. Яны завяралі, што Савецкія Рэспублікі, ў выпадку зьдзейсьненьня камуністычных плянаў, абяцаюць дастаўляць збожа ў Нямеччыну.

У нядзелю ў Бэрліне арыштована 108 асоб за учасьце ў забароненых дэмонстрацыях і за праціў уладам. Усе арыштованыя пасьля былі звольнены.

У Брэслаўлі адбыўся вялізарны мітынг, які быў зарганізованы праз камуністаў. Мітынг адбыўся у поўным парадку.

У Баварыі дайшло да крывавых боек паміж фашыстамі і антыфашыстамі.

У Дрэздэне арыштована 83 асобы, належачых да монархічных арганізацыяў.

### ФРАНЦЫЯ.

Бэльгійскі ўрад на жаданьне француcкага ўраду ў апошні момэнт зьмяніў рэдакцыю адказу на ангельскую ноту, згаджаючыся з пунктам гледжаньня Францыі. Францускія і Бэльгійскія адказы ўручаны ангельскаму ўраду. Ангельскія прапазыцыі, па інфармацыях палітычных колаў, не спаткалі спогаду ў Парыжы, Брусэлі і Рыме.

Соцыялістычныя партыі і проф. саюзы абходзілі ўгодкі забойства Жорэса.

### АНГЛІЯ.

Старшыня міністраў Бальдвін вярнуўся ў Лёндан. Зараз-жа сабралася Рада Міністраў, дзе абгаварваліся справа рэпарацый і справа безработцьця ў Англіі. Спадзяюцца, што ў чацьвер распачнуцца спрэчкі ў справе францускага і бэльгійскага адказаў на паседжаньні парлямэнту.

З прычыны выключэньня з парлямэнту некалькіх паслоў работніцкай партыі, перад будынкам парлямэнту адбыліся паважныя дэмонстрацыі работнікаў.

### Сінайская конфэрэнцыя.

У Сінаі адбываецца конфэрэнцыя дзяржаў Малой Антанты; паміж дзяржавамі учасьніцамі конфэрэнцыі пануе поўная згода. Разглядалася справа будучага сабраньня Лігі Нацый, на якім Малая Антанта будзе падтрымліваць кандыдатуру Бэнэша ў Раду Лігі, разглядаліся таксама розныя палітычныя і гаспадарчыя пытаньні і адносіны да другіх дзяржаў.

**Газэта высылаецца усім падпішчыкам рэгулярна, апрача конфіскованых намяроу.**

**Хто з падпішчыкау не адтрымлівае, просім паведамляць аб гэтым адміністр. „Нашага Сьцягу“.**

## Агляд жыдоускай прэсы.

*(„Праіграная бітва“).—Пасол Выгодзкі аб Пілсудскім і арганізованым пролетарыяце.—„Жыдоўская Хьена“).*

За праграную бітву лічыць „Unser Folkszeitung“ паядынак, які адбыўся ў мінуўшым тыдні паміж панам Сэйдай, выступаўшым з сваім экспозэ і прадстаўніком лявіцы п. Домбскім.

Вось цікавы адрывак артыкулу, пад загалоўкам „Праграная бітва“:

„.... Па сутнасьці няма прынцыповай розьніцы паміж унутранай і замежнай палітыкай дзяржавы. Хто вядзе рэакцыйную палітыку ў краі, той павінен таксама быць рэакцыйным і шовіністычным і на міжнародным грунце, а таксама павінен быць кожную мінюту ўзброеным з галавы да ног. Хто-ж стаіць за свабодалюбівую, дэмакратычную палітыку ўнутры, той мусіць імкнуцца, каб жыць у згодзе і быць у нармальных адносінах эканамічных і палітычных з усімі суседзямі. Той таксама павінен імкнуцца да звальненьня масаў люднасьці ад вялікага цяжару, які зьвязаны з ваеннымі выдаткамі і руйнуе край, паралізуючы ягоную магчымасьць разьвіцьця.

Нашыя лявіцоўцы зьяўляюцца толькі дэмакратамі ў справах унутранай палітыкі. У справах-жа замежнай палітыкі стаяць яны фактычна на тым самым прынцыповым грунце, што і правіцоўцы.

Газэта робіць такі вывад:

„На грунце загранічнай палітыкі лявіцоўцы будуць праіграваць кожную бітву з правіцай, пакуль не зразумеюць, што замежная палітыка ёсьць толькі працягам унутранай палітыкі і што без запраўднай дэмакратычнай палітыкі на вонкі немагчыма вясьці свабодалюбівай палітыкі ўнутры краю“.

У „Unser Frajndzie“ знаходзім артыкул пасла д-ра Выгодзкага пад загалоўкам „Дзяржаўная машына ня рухаецца“. Характарызуючы умову паміж Хьенай і Пястам, пасол Выгодзкі піша:

„Новая пара здаецца толькі цяпер пачынае заўважваць, што істнуе справа: Пілсудскі і зарганізованыя работнікі. Ня можна на гэтую справу так махнуць рукой і бязумоўна адыграе яна яшчэ вялікую ролю ў найблізшай будучыне ў Польшчы.

.... Пры вялікіх уплывах, якія мае Пілсудскі ў Польскім войску, сярод работнікаў і наагул у краі і пры ягоным нязломным і консэквэнтным характары ясна, што ён яшчэ не сказаў свайго апошняга слова і што ён распачынае новую карту ў падзеях Польшчы“.

„Unser Folkszeitung“ стараецца даказаць, што няма ніякай розьніцы паміж Хьенай польскай і жыдоўскай. Доказам гэтага было паседжаньне Соймавай фінансавай камісіі, на якім абедзьве Хьены галасавалі разам у справе падатку на маемасьць.

Згодна гэтай газэты:

„для спэкулянтаў усіх народаў „нацыянальныя інтарэсы“ концэнтруюцца там, дзе знаходзяцца іх.

**М. Г.**

## З Польскага Сойму.

На паседжаньні Сойму 31 ліпня прынята ў трэцім чытаньні устава аб компэтэнцыі новага міністэрства зямельных рэформаў і ў другім чытаньні устава аб фінансах самаўрадаў.

Далей пасол **Рагуля** (Бел.) падтрымліваў сьпешнасьць прапазыцыі Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе адмены адміністратыўнага загаду Дэлегата Ураду на Віленшчыну аб пераходзе ўва ўладаньне дзяржавы дамоў пры Вастрабрамскай вул. № 9 і інш., у якім, выдажыўшы гістарычную мінуўшчыну Базыльянскіх муроў, вядомую нашым чытачом з артыкулу ў папярэднім нумары, лічачы загад Камісара Ураду з праўнага боку спрэчным, Бел. Пас. Клюб, прыймаючы ўсё гэтае пад увагу і тое, што шмат беларускіх культурных і прасьветных арганізацыяў будуць выкінуты на брук,—прапануе ўраду ўстрымаць выкананьне гэтага загаду да часу разгляду гэтай справы праз Суд.

Ніхто з паслоў проціў сьпешнасьці прапазыцыі ня выступіў, але сьпешнасьць усё-ж такі была адкінута.

Пасол кс. **Адам Станкевіч** у камісіі загранічных спраў унёс прапазыцыю, дамагаючуюся, каб урад якнайхутчэй прадставіў Сойму проект уставы аб рэкомпэнсацыі малазямельных сялян і мястэчак, пазбаўленых часткі сваіх грунтаў праз Польска-Савецкую граніцу, шляхам надзяленьня іх зямлёю, што засталася пасьля грамадзян Савецкай Беларусі, альбо праз парцэляцыю прыватных і дзяржаўных маёнткаў, згодна з уставай аб зямельнай рэформе. Прапазыцыя перапслана ў зямельную камісію.

## З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

### З Віленскага Жыцьця.

**Базыльянскіх муроў пакуль не адбяруць.** У зьвязку з паведамленьнем Дэлегатуры ўраду аб тым, што Базыльянскія муры пераходзяць пад урад, па горадзе разышліся погаласкі быццам беларускія установы ў хуткім часе маюць быць выкінуты з гэтых муроў. Паперэджаем, што погаласкі гэтыя ня маюць ніякіх падстаў, бо аб справе гэтых муроў нашы паслы падалі інтэрпэляцыю і, пакуль суда ня было, ня можа быць гутарак аб высяленьні. Беларусы зусім праўна займаюць гэтыя муры, але хоць-бы суд і прызнаў іх за ўрадам дык у ніякім выпадку раней году перадача муроў ня можа адбыцца.

**Конфіската „Lietuvos Rytai“.** Па загаду камісара ўраду 31-га ліпня сканфіскованы № 35 літоўскай газэты „Lietuvos Rytai“ за артыкул: „Новае лета—новыя лісты“.

У нядзелю 12 жніўня ў Радашковічах адбудзецца беларускі спэктакль. Рыхтуецца п'еса ў 3-х актах „Пан міністар“ пры ўчасьці аўтора п'есы гр. Аляхновіча. Як нас паведамляюць трупа гэтая мае паставіць цэлы рад спэктакляў у Маладэчне, Гарадку і Вялейцы.

Замест арыштованага пасла Каліноўскага прыняў пасольскі мандат чарговы кандыдат па сьпіску № 16 беларус Паўла Валошын.

## Судовыя справы.

### Працэс „Саюзу Пролетарыяту местау і вёсак“.

*(Гл. № 19).*

**Трэці дзень (26. VII. 1923 г.)**

**Абаронца** ў $2\frac{1}{2}$ гадзіннай прамове амаль і ня ўжывае тых даволі рыторычных момэнтаў якія чуваць было ў прамове Пракурора, але лёгіка абаронцы цьвёрдая, як сталь, ён практычным розумам разьбірае ўсе довады абвінавачаньня за і проці і робіць неаспораны вывад, што прыналежнасьць абвінавачаных

цяжка ім плыць проціў цячэньня, і яны гінуць. Усё-ж ткі лічба адзінак павялічваецца, сіла іх расьце, і разам з ёй іх уплыў на масу, яны пачынаюць вясьці за сабой масу да прагрэсу. Цяжка яшчэ цягнуць, але можа з часам стане лягчэй.

Прыкметная розьніца ёсьць паміж Сымонам (Страхі Жыцьця) і разгледжанымі ўжо тыпамі. І ён п'ець, але ён стаіць вышэй ад іх, ён лятуціць аб якіх-то ідэалах моладасьці, але ён яшчэ слабы, і гэтае балота, з каторага ён хоча вырвацца, цягне яго да сябе і ўсасывае. Таксама гіне і Юзя. Яна не магла глядзець на галодную сям'ю і, ня маючы іншага способу зарабляць на хлеб, яна прымушана выйсьці на вуліцу, ахвяраваць сябе дзеля сям'і. Не яна вінавата ў гэтым, а тыя соцыяльныя варункі, каторыя стварылі гэтае палажэньне. Таксама нельга лічыць вінаватым і Казюка за тое, што кінуў Юзю пасьля таго, як яна пайшла на вуліцу. „Мы мужчыны, самы брудныя, дзеля таго можа быць любім чыстату ў кабетах“, — так кажа Казюк. Цяпер ён ня можа яе любіць, як кабету, але толькі, як сястру, жаласьліва. У ёй засталіся два выхады: або далей ісьці пачатым ужо шляхам, або парвацца зусім з жыцьцём. Выбрала яна апошняе. Больш моцны ўжо Юрка: яго ідэі ўжо ясныя, не як лятуценьні Сымона. Яго інтарэсы не асабістыя, эгоістычныя, але агульна-людзкія. Таксама на вышэйшы ровень паднялася кабета — Людвіка. Яна ідзе сьледам за Юркай. Але моцная яшчэ опозыцыя (матка Людвікі), консэрватызм іх глыбокі і таму Юрка сваіх ідэалаў не дасягае і гіне. А час ідзе, абставіны мяняюцца і людзі мяняюцца. Слабее фронт мяшчанства, яно пачынае дзяліцца. Праўда, ёсьць яшчэ у ім Паўліны, і такіх яшчэ шмат, але паяўляюцца ужо Костусі, каторыя пад уплывам такіх, як Васіль, пачынаюць таксама верыць у новыя ідэі, а можа з часам пойдуць Васілю на дапамогу. Васіль („Нясконччаная драма)“ чалавек ідэйны, гатовы ахвяраваць сваім сямейным шчасьцем, нават жыцьцём дзеля справы нацыянальнай. Ён стаіць моцна на сваім становішчы і не баіцца, што мяшчанства можа ўсасаць яго, як Сымона. Яго ўплыў ужо прыкмецен. Ня толькі Ядвіга, але і Костусь, гэтае ўвасабленьне масы мяшчанскай і ён паддаецца гэтаму ўплыву. Ядвіга, каторая ўвесь час перашкаджае Васілю працаваць, занятая толькі справамі асабістымі, ўрэшце даець яму ісьці ў Менск і дае яму нават свае грошы, грошы апошнія. Чаму яна не паднялася да паглядаў Васіля, як Людвіка? Бо соцыяльныя варункі перашкаджалі гэтаму. Беднасьць, дзіця — ўсё гэта не дало Ядвізе магчымасьці адарвацца ад прозы жыцьця. Нейкі ўплыў меў Васіль і на Костуся. Спачатку Костусь так гаворыць Васілю: „нашто церабіць „новы шлях“? няўжо-ж не лепей кінуцца ў хвалі жыцьця і плыць туды, дзе большасьць“? Але хутка і ён мяняецца. Калі Васіль зьбіраецца ісьці ў Менск, ён кажа яму: „ідзі!“ „Вера — наша сіла“— кажа яшчэ раней Васіль, і гэтая вера настолькі моцная была, што і на іншых мела ўплыў, і яны таксама паверылі. Але ня ўсе паверылі, Ёсьць у мяшчанстве і Паўліны — гэта больш консэрватыўная частка мяшчанства, на іх Васіль уплыву яшчэ ня меў. Іх застой, іх консэрватызм такі глыбокі, што такім ціхім эволюцыйным парадкам, толькі тэорыяй іх разбудзіць цяжка будзе, бо старыя традыцыі ў іх моцна трымаюцца яшчэ.

Вось маем мы перагляд галоўных твораў Аляхновіча. Прыгледзіўшыся бліжэй да іх мы пабачым жыцьцёвасьць гэтых тыпаў. Мы пабачылі іх консэрватызм, іх культурны застой, але з другой стараны, мы пабачылі і пачаткі прагрэсу ў гэтым мяшчанстве: паяўляюцца адзінкі, каторыя хочуць разбудзіць гэтае мяшчанства ад яго сну. Цяжка даецца гэта ім, але усё-ж такі даецца.

**Б. Каплан.**

